*Я. Н. Рапановіч*

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ



*Я. Н. Рапановіч*

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Рэдактар
доктар філалагічных навук
П. П. Шуба



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
1977

4С(Бел)
Р23

Рэцэнзенты:
доктар геаграфічных навук
В. А. Жучкевіч,
кандыдаты філалагічных навук
Я. М. Адамовіч, С. М. Грабчыкаў

**Рапановіч Я. Н.**

Р23 Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Рэд. П. П. Шуба. Мн., «Навука і тэхніка», 1977.

504 с.

На беларускай і рускай мовах даюцца назвы ўсіх населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Кожная назва прыводзіцца з націскам; паказваюцца род назоўніка, родны і месны склоны, утвораны прыметнікі; адзначаецца тып пасялення, называюцца сельсавет і раён, а таксама калгас ці саўгас, на тэрыторыі якіх гэта пасяленне знаходзіцца.— Літ.: с. 501–504.

Слоўнік разлічаны на моваведаў, географаў, гісторыкаў. Ён будзе карысны для ўсіх, хто ў сваёй працы сустракаецца з назвамі населеных пунктаў Беларусі.

Р $\frac{70105-158}{М316-77}$ Дад.—77 4С(Бел)

## УВОДЗІНЫ

Уласныя геаграфічныя назвы, ці тапонімы, фарміруюцца пад уплывам гістарычных, лінгвістычных, геаграфічных і этнаграфічных фактараў. Як састаўная частка тапаніміі, назвы населеных пунктаў, або айконімы, багатыя на інфармацыю.

Узнікшы ў пэўны, канкрэтны час, айконімы Беларусі здольны дапамагчы нам скласці навукова абгрунтаванае ўяўленне пра характар засялення тэрыторыі і першых яе насельнікаў, пра асноўныя этапы і найважнейшыя сацыяльныя працэсы ў гістарычным развіцці народа з глыбокай старажытнасці аж да нашых дзён; яны могуць расказаць нам пра прыродна-геаграфічныя, сацыяльна-эканамічныя, грамадска-палітычныя ўмовы жыцця беларусаў, пра іх сувязі і ўзаемныя адносіны з суседзямі, пра станаўленне і развіццё беларускай мовы. У назвах, якія ўзніклі пры Савецкай уладзе, побач з харастvolume роднага краю знайшлі сваё выяўленне погляды і ідэалы беларускага народа, новы ўклад яго жыцця. Асобныя новыя айконімы ўшаноўваюць памяць найактыўнейшых змагароў за сацыялістычную яву, за волю і незалежнасць Радзімы, за яе светлую будучыню.

У беларускай мове тысячы айконімаў. Асобныя з іх вядомы ўсім, некаторыя — многім, пераважная большасць — толькі мясцовым жыхарам. Адным назвам населеных пунктаў болей за тысячу, другім — некалькі дзесяткаў, а то і некалькі гадоў.

Як і ўсё ў прыродзе і грамадстве, пасяленні і іх назвы развіваюцца дыялектычна: адны знікаюць, другія нараджаюцца. Працэс знікнення ідзе ў асноўным чатырма шляхамі. Першы: вынішчэнне населеных пунктаў у час войнаў, якіх так многа спазнала беларуская зямля... Толькі ў Вялікую Айчынную вайну, як сведчыць Хатынскі мемарыяльны комплекс, нямецкія фашысты знішчылі 9200 беларускіх вёсак, 209 гарадоў і гарадскіх пасёлкаў * — з іх 186 не

---

* Ушчэнт вынішчаліся цэлыя раёны. У сакавіку 1943 г., напрыклад, на тэрыторыі былога Асвейскага раёна некалькі дзён безупынку лютавалі гітлераўскія карнікі. Яны сцёрці з зямлі ўсе 158 паселішчаў, 3450 жылых будынкаў, спалілі раённы цэнтр Асвея, мястэчка Каханавічы, 9 Дамоў культуры, 12 сярэдніх і 90 няпоўных сярэдніх школ, 4 дзіцячыя дамы, 6 бальніц і 2 ветлячэбніцы, 3 машынна-трактарныя станцыі (Белорусская ССР. Витебская область. Мн., 1974, с. 91—92).

адрадзіліся пасля вайны, як тыя Хатынь і Дальва на Лагойшчыне ці Альцы на Пастаўшчыне. 186 назваў не стала на пасляваенных картах Беларусі. Другі: далучэнне населеных пунктаў да гарадоў ці гарадскіх пасёлкаў, што вымагаецца інтэнсіўным развіццём у іх прамысловасці, павелічэннем колькасці людзей і, як вынік, ростам адміністрацыйных і культурна-асветных устаноў. Толькі ў пасляваенныя гады, напрыклад, да Віцебска адышлі Журжава, Паўночны (1958 г.), Мішкава, Цірaспаль (1966 г.), Віцьба, Давыдаўка, Сакалоўка, Себяхі (1967 г.); да Наваполацка — Беланова, Меруголава, Новікава, Новы Двор, Паштары, Праварышча, Рулёўка, Шапілаўка (1964 г.), Вітаражжа, Залюхава (1975 г.); да Оршы — Гразівец (1959 г.), Пустынкі (1966 г.); да Полацка — Кароўнікі (1959 г.), Меліярацыйная, Пагіршчына, Спас-Слабада (1972 г.); да гарадскога пасёлка Руба далучылі вёскі Гралева, Камяніца, Руба (1970 г.), пасёлак Вярхоўе (1972 г.). Трэці шлях — ссяленне хутароў і, нарэшце, чацвёрты — аб'яднанне невялікіх паселішчаў у большыя. Апошнія два шляхі ва ўмовах сацыялістычнай дзяржавы самыя актыўныя, асабліва цяпер, калі планамерна ажыццяўляецца праграма перабудовы вёскі.

Як відаць, населеных пунктаў становіцца ўсё менш і менш і змяншэнне іх ідзе хуткімі тэмпамі. За 46 гадоў (1930—1976), напрыклад, у Ноўкінскім сельсавеце Віцебскага раёна не стала 93, а ў Шумілінскім раёне — 503 паселішчаў. (Звернем увагу, што на 1 студзеня 1977 г. у Ноўкінскім сельсавеце налічвалася 43, у Шумілінскім раёне — 292; на перспектыўнае развіццё ў Шумілінскім раёне плануецца 47 паселішчаў.) Адначасова змяншаецца і колькасць айконімаў. Сотні іх ужо бясследна зніклі і сотні знікаюць у нашы дні, на нашых вачах. Сабраць і вывучыць назвы населеных пунктаў рэспублікі — значыць дапамагчы навукова раскрыць многія з'явы гісторыі, геаграфіі і мовы беларускага народа.



Сярод абласцей БССР Віцебская займае плошчу ў 40 100 кв. км (усяго на 300 кв. км меншая за Гомельскую і на 700 кв. км меншая за Мінскую); па колькасці насельніцтва на 1 студзеня 1977 г. яна была на трэцім месцы (1 390 800 чалавек) пасля Мінскай (2 741 500 чалавек, з іх 1 511 000 у вобласці і 1 230 500 у Мінску і гарадскім пасёлку Усходні) і Гомельскай (1 568 500 чалавек)*.

* Народное хозяйство Белорусской ССР в 1976 году. Мн., 1977, с. 16—17.

У 1968 г. з 29 342 населеных пунктаў Беларусі на долю Віцебскай вобласці прыпадала 9007 *. На 1 студзеня 1977 г. вобласць' мела 7785 паселішчаў **, сярод іх 19 гарадоў (5 абласнога падпарадкавання: Віцебск, Лепель, Наваполацк, Орша, Полацк; 14 раённага падпарадкавання: Барань, Браслаў, Верхнядзвінск, Гарадок, Глыбокае, Дзісна, Докшыцы, Дуброўна, Мёры, Новалукомль, Паставы, Сянно, Талачын, Чашнікі), 24 гарадскія пасёлкі (Арэхаўск, Асвея, Багушэўск, Бешанковічы, Бягомль, Варапаева, Ветрына, Відзы, Вула, Друя, Езярышча, Копысь, Коханава, Лёзна, Лынтупы, Обаль, Падсвілле, Расоны, Руба, Сураж, Ушачы, Шаркаўшчына, Шуміліна, Янавічы), 2 рабочыя пасёлкі (Акцябрскі, Асінторф), 8 былых мястэчак, 132 пасёлкі, 6473 вёскі, 65 засценкаў, 1012 хутароў, 39 чыгуначных станцый, 11 раз'ездаў, 24 пасялковыя і 251 сельскі Савет.



Землі, якія належаць цяперашняй Віцебскай вобласці, вельмі цікавыя ў гістарычным плане. Тут праходзіў стары гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі», які далей цягнуўся праз усю Расію; тут сыходзіліся дарогі з Заходняй Еўропы ва Усходнюю і пачынаўся непасрэдны выхад да Балтыйскага мора; тут была такая моцная палітычная адзінка старажытнай Русі, як Полацкае княства; тут неаднойчы вырашаўся лёс дзяржаў і народаў.

Ведучы ў Віцебску раскопкі, археолагі знайшлі берасцяныя граматы, якія сведчаць пра гандлёвыя кантакты віцяблян з вялікім Ноўгарадам, Кіевам, Масквой, Каменнай Балгарыяй і іншымі гарадамі і княствамі. Эканамічнаму і культурнаму развіццю Віцебшчыны садзейнічала таксама і тое, што яна даволі зручна размешчана ў транспартна-геаграфічных адносінах.

Сучасная Віцебская вобласць на поўначы мяжуе з Пскоўскай вобласцю, на паўночным захадзе — з Латвійскай ССР і Літоўскай ССР, на захадзе і паўднёвым захадзе — з Мінскай і Гродзенскай, на поўдні — з Магілёўскай, на ўсходзе — са Смаленскай абласцямі.

І мінулае і сучаснае зрабілі значны адбітак на складванні і

---

* Падлікі зроблены паводле даведніка: Белорусская ССР. Административно-территориальное деление. Мн., 1968.

** На перспектыўнае развіццё, акрамя гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, плануецца 1341 пасяленне.

станаўленні, а таксама на функцыяніраванні айконімаў Віцебшчыны. Аднак скарыстаць у поўнай меры інфармацыю, якую нясуць у сабе назвы населеных пунктаў, пакуль што немажліва, бо, як і на ўсёй Беларусі, за ўсю яе гісторыю не складзена і не надрукавана хаця б поўнага спісу назваў на беларускай мове. Усе крыніцы, дзе можна знайсці беларускія айконімы, на польскай ці рускай мове. Адсюль — нярэдкая блытаніна ў пісьмовых назвах і тых, што бытуюць у народзе, і адсутнасць строгай нарматыўнасці ў афіцыйных формах беларускіх айконімаў. (Дарэчы, пра пільную патрэбу выдаць тапанімічны слоўнік Беларусі не адзін раз гаварылася і ў перыядычным друку і ў навуковых працах *.) Да гэтага часу, скажам, частка мясцовых людзей у Дрысвяцкім сельсавеце Браслаўскага раёна пасяленні Б а р к а ў ш ч ы́ н а, Г а л я ў ш ч ы́ н а, К а р а н е́ ў ш ч ы н а, С т а ў п о́ ў ш ч ы н а называюць на польскі лад: Б а р к а ў ш ч ы́ з н а, Г а л я ў ш ч ы́ з н а, К а р а н е ў ш ч ы́ з н а, С т а ў п а ў ш ч ы́ з н а. На картах, у даведніках і іншых крыніцах назвы двух раённых цэнтраў па-руску пішуць Л и о з н о і М и о р ы. Такое напісанне ідзе ад польскіх Liozno і Miory, дзе літара «і» паказвае на мяккасць папярэдніх зычных. Насуперак мясцоваму вымаўленню М ё р ы, грунтуючыся на памылковым рускім напісанні, назву па-беларуску перадаюць няправільна, у скажонай форме—

---

* Я н к о ў с к і Ф. Дыялектны слоўнік. Мн., 1959, с. 13; К а ў р у с А., П а д г а й с к і Л. Берагчы добрае, ствараць лепшае.— «Літаратура і мастацтва», 1965, 26 студзеня; П р а ч С. Патрэбен геаграфічны слоўнік.— «Літаратура і мастацтва», 1966, 11 сакавіка; У л а ш ч ы к М. Так, як называе народ.— «Літаратура і мастацтва», 1966, 6 мая; Ю р ч а н к а Г. Дыялектны слоўнік. Мн., 1966, с. 6—7; П р а ч С. Как же правильно? — «Советская Белоруссия», 1968, 19 апреля; Ж у ч к е в и ч В. Как же правильно? — «Советская Белоруссия», 1968, 30 мая; Я ш к і н І. Патрэбен геаграфічны слоўнік.— «Літаратура і мастацтва», 1968, 7 чэрвеня; Ш ы д л о ў с к і А. Беларуская тапаніміка.— «Полымя», 1968, № 10; Ж у ч к е в і ч В. Геаграфічны разнабой.— «Звязда», 1969, 25 верасня; Н і к а н а ў У. А. Геаграфія фармантаў у тапаніміі Беларусі — гісторыя мовы ці народа? У кн.: Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970, с. 40; А д а м о в і ч Я. М. Берагчы тапанімію роднага краю.— Т а м ж а, с. 196; Р а п а н о в і ч Я. Н. Да праблемы пра складанне тапанімічнага слоўніка Беларусі. У кн.: IV Республіканська ономастична конференція. Київ, 1969; Я г о ж. Паселішча і яго назва.— «Маладосць», 1970, № 3; Я г о ж. Пра сучасныя назвы населеных месцаў Беларусі. У кн.: Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1971; Я г о ж. Пра беларускія назвы. — «Полымя», 1972, № 4. П р а ч С. Гісторыя з геаграфіяй.— «Чырвоная змена», 1973, 9 снежня; Л е м ц ю г о в а В. Ісці ад вытокаў.— «Чырвоная змена», 1973, 9 снежня.

М і ё р ы. Разнабой часам назіраецца і ў афіцыйных назвах устаноў. У вёсцы Далёкае, што на Браслаўшчыне, ёсць школа, бальніца і сельсавет. У кожнай з устаноў свой штамп, а на штампе свая назва: «Д а л е к с к а я сярэдняя агульнаадукацыйная працоўная політэхнічная школа з вытворчым навучаннем...», «Д а л е ц к а я сельская ўчастковая больніца...», «Выканаўчы камітэт Д а л е к а ў с к а г а сельскага Савета...». Атрымліваецца, нібы школа, бальніца і сельсавет знаходзяцца не ў адным і тым жа населеным пункце, а ў розных.



Ставячы мэтаю стварыць слоўнік назваў паселішчаў на тэрыторыі сучаснай Віцебскай вобласці, аўтар карыстаўся трыма крыніцамі. Першая: запісы на месцы — ад старажылаў вёсак, былых мястэчак, пасёлкаў, хутароў. Другая: перапіска з мясцовымі карэспандэнтамі. Трэцяя: друкаваныя матэрыялы (карты, даведнікі, зборнікі законаў, спісы і інш.). На першым плане, безумоўна, запісы, зробленыя ў 1947—1976 гг. на месцы. Бо сапраўднай афіцыйнай формай айконіма, як і ўсякага іншага тапоніма, неабходна лічыць назву, якой карыстаецца сам народ. Вызначаць такую назву ў значнай ступені дапамагалі пісьмы настаўнікаў, студэнтаў, работнікаў мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» беларуска-рускі. Складаецца ён з дзвюх частак.

У першай частцы даюцца назвы ўсіх паселішчаў (гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, пасёлкаў, былых мястэчак, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў), якія ёсць на сучаснай тэрыторыі вобласці. Сюды ўключаюцца і назвы (на жаль, не ўсе) населеных пунктаў, пры Савецкай уладзе далучаных да гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, сселеных або аб'яднаных з іншымі, а таксама спаленых у Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі (пасля вайны не адноўленых).

Кожны айконім пішацца паводле арфаграфічных нормаў, прынятых у сучаснай літаратурнай мове (беларускай і рускай), і мае пазначаны націск — толькі на па-беларуску напісаных назвах і ўтвораных ад іх прыметніках. Пры назве населенага пункта падаецца граматычны род, родны і месны склоны айконімаў. Пры назоўніках жаночага роду, што маюць аднолькавыя канчаткі ў родным і месным склонах, канчатак паказваецца адзін раз; пры назоўніках, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, ёсць памета мнл., што абазначае «множналікавы назоўнік». Калі ў родным склоне множ-

нага ліку назва населенага пункта ўжываецца ў кароткай і поўнай формах, то прыводзяцца абедзве формы: першая — асноўная, другая — магчымая. Прыводзяцца таксама прыметнікі, беларускі і рускі, утвораныя ад айконімаў.

Паказваецца тып населенага пункта; пры гарадах, гарадскіх, рабочых пасёлках даецца год, з якога гэты населены пункт стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам, паказваецца падпарадкаванне (абласное, раённае); адзначаецца, цэнтрам чаго з'яўляецца населены пункт (абласнога, раённага, пасялковага, сельскага Савета), у якім сельсавеце і раёне знаходзіцца, у які калгас ці саўгас (пры негарадах) уваходзіць, а перайменаваныя маюць год перайменавання і старую назву.

**Абало'нь** ж., -ні **Оболонь.** Абало'нскі Оболонский
х. у Пялікаўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се «Іскра».
**А'зіна** (да 1975 г. Бе'лае) н., -на, -не **Азино.** А'зінскі Азинский
в.—ц. Азінскага с/с Полацкага р-на і с-са «Белае».
**Альцы'** мн., -цоў, -цах **Альцы.** Альцо'ўскі Альцовский
в. у Дунілавіцкім с/с Пастаўскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая.
**Алюшко'ва** н., -ва, -ве **Алюшково.** Алюшко'ўскі Алюшковский
х. да 1939 г. у Мікалаеўскім с/с Шумілінскага р-на.
**Ві'цебск** м., -ка, -ку **Витебск.** Ві'цебскі Витебский
летапісы называюць у 974 г., г. абласнога падпарадкавання, ц. Віцебскага р-на і вобл.
**Вішнёўка** (да 1964 г. Турчы'лава) ж., -кі, -ўцы **Вишнёвка.** Вішнёўскі Вишнёвский
в. у Зайкаўскім с/с Гарадоцкага р-на, у к-се «Перамога».

Не вызначаецца граматычны род айконімаў і не паказваюцца іх формы ў родным і месным склонах, калі населеныя пункты называюцца (ці называліся) паводле вытворчай прыкметы ці роду заняткаў людзей. Пры такіх назвах няма таксама і прыметнікаў.

**Пасёлак ДРП-17 Посёлок ДРП-17**
п. у Азярэцкім с/с Талачынскага р-на, у к-се «Дружба».
**Пасёлак заво'да імя' А. Э. Да'ўмана Посёлок завода имени А. Э. Даумана**
п. да 1968 г. у Обальскім п/с Шумілінскага р-на.
**Пасёлак цаге'льнага заво'да № 37 Посёлок кирпичного завода № 37**
п. да 1968 г. у Обальскім п/с Шумілінскага р-на.

Па-руску беларускія айконімы перадаюцца выходзячы з традыцыі, заснаванай на блізкай роднасці беларускай і рускай моў, і ў адпаведнасці з асноўнымі нормамі, захавання якіх патрабуе «Ин-

струкция по русской передаче географических названий Белорусской ССР» (М., 1971).

Як і іншыя геаграфічныя назвы, айконімы ўзнікаюць і скарыстоўваюцца для таго, каб назваць канкрэтны аб'ект, вылучыць яго сярод падобных, надаць адзіны «адрас», таму яны, як правіла, інтэрнацыянальныя і не перакладаюцца з мовы на мову. Гэта вельмі істотнае палажэнне, прынятае ў сучаснай навуцы, улічана ў слоўніку.

**Васто′к** м., -ка, -ку **Восток.** Васто′цкі Востокский
п. у Каўлякоўскім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се «Перамога».
**Кра′сны Луг** м., -нага -га, -ным Лузе **Красный Луг.** Красналу′жскі Краснолужский
в. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя А. М. Горкага.
**Рассве′т** (да 1964 г. Чарто′ўшчына) м., -та, -еце **Рассвет.** Рассве′таўскі Рассветовский
в. у Студзёнкаўскім с/с Сенненскага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.
**Чырво′ны Кастры′чнік** м., -нага -ка, -ным -ку **Чирвоный Кастрычник.** Чырвонакастры′чніцкі Чирвонокастрычникский
п. у Кашчынскім с/с Чашніцкага р-на, у с-се «Кашчынскі».

Выключэнне складае слова «першы»: ці яно з'яўляецца часткаю састаўной назвы, ці ўваходзіць як элемент у складаны айконім — заўсёды паводле традыцыі, замацаванай штодзённай практыкай, перакладаецца.

**Пе′ршае Ма′я** н., -шага Мая, -шым Маі **Первое Мая.** Першама′йскі Первомайский
п. у Лазукоўскім с/с Чашніцкага р-на, у к-се «Прагрэс».
**Першама′йка** (да 1964 г. Злы′днікі) ж., -кі, -йцы **Первомайка.** Першама′йскі Первомайский
в. у Бычыхінскім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се імя Я. М. Свярдлова.
**Першама′йск** (да 1964 г. Свінно′е) м., -ка, -ку **Первомайск.** Першама′йскі Первомайский
в. у Домжарыцкім с/с Докшыцкага р-на, у к-се «Зара».

Калі сярод мясцовых людзей паралельна бытуюць беларуская і руская назвы (у Крынкаўскім сельсавеце Лёзненскага раёна, напрыклад, вёскі называюць Вялікая Выдрэя і Бальшая Выдрэя, Вялікія Калінавічы і Бальшыя Калінавічы, Вялікія Міснікі і Бальшыя Міснікі), то перавага аддаецца беларускай назве і ў кнізе астаюцца Вялікая Выдрэя, Вялікія Калінавічы, Вялікія Міснікі.

Назіраюцца выпадкі, калі мясцовая народная назва не супадае з пісьмовай афіцыйнай, якая ўжо так трывала замацавалася ў розных друкаваных крыніцах, што нават паступова пачала выцясняць мясцовую. У такім разе даюцца абедзве назвы — спачатку пісьмовая, афіцыйная, а потым (у дужках) мясцовая, народная.

**Ве′сніцк** (Ве′сніцак) м., -ка, -ку **Весницк.** Ве′сніцкі Весницкий
в. у Велікадолецкім с/с Ушацкага р-на, у с-се «Касары».
**Езяры′шча** (Азяры′шча) н., -ча, -чы **Езерище.** Езяры′шчанскі Езерищенский
в. у Горбаўскім с/с Лёзненскага р-на, у к-се «Маяк Ільіча».
**Іо′сіфаўшчына** (Во′сіпаўшчына) ж., -ны, -не **Иосифовщина.** Іо′сіфаўшчынскі Иосифовщинский
х. у Зябкаўскім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Авангард».

Аднолькавыя назвы змешчаны ў адным артыкуле. Прытым самі назвы не паўтараюцца. Звесткі пра кожны населены пункт, незалежна ад яго тыпу, падаюцца зыходзячы з алфавітнага парадку раёнаў, а для паселішчаў у адным і тым жа раёне — зыходзячы з алфавітнага парадку сельсаветаў.

**Краснаго′рка** ж., -кі, -рцы **Красногорка.** Краснаго′рацкі Красногорецкий
х. у Друйскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна;
х. у Дрысвяцкім с/с Браслаўскага р-на, у с-се «Авангард»;
в. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Слава».

Бывае, што ў адным і тым жа сельсавеце ёсць аднолькавыя назвы, якія маюць адрознівальныя паказальнікі І, ІІ і г. д. Тады спачатку даецца назва без паказальніка, а затым — з чарговымі нумарамі. Прычым першай ідзе назва населенага пункта, які ёсць на сённяшні дзень, за ёй — назвы далучаных, сселеных ці аб'яднаных паселішчаў.

**Красама′й** м., -ая, -аі **Красомай.** Красама′йскі Красомайский
в. у Казянскім с/с Шумілінскага р-на, у с-се «Казяны».
**Красама′й І** м., -ая, -аі **Красомай І.** Красама′йскі І Красомайский І
в. да 1940 г. у Казянскім с/с Шумілінскага р-на.
**Красама′й ІІ** м., -ая, -аі **Красомай ІІ.** Красама′йскі ІІ Красомайский ІІ
в. да 1940 г. у Казянскім с/с Шумілінскага р-на.

Назвы населеных пунктаў, сселеных ці аб'яднаных з іншымі, стаяць у агульным алфавітным парадку. Пры іх называецца год, да якога было паселішча.

**Аве′ркі** мнл., -рак/-каў, -ках **Аверки.** Аве′ркаўскі Аверковский
х. да 1939 г. у Мішневіцкім с/с Шумілінскага р-на.
**Аза′рына** н., -на, -не **Азарино.** Аза′рынскі Азаринский
з. да 1969 г. у Параф′янаўскім с/с Докшыцкага р-на.
**Дарге′йкі** мнл., -еек/-каў, -ках **Даргейкі.** Дарге′йкаўскі Даргейковский
в. да 1976 г. у Беліцкім с/с Сенненскага р-на.

У састаўных назвах словы стаяць у звычайным, а не інверсійным парадку: Гушчынская Слабодка (Кубліцкі сельсавет Ушацкага раёна), хоць бытуе і Слабодка Гушчынская. Каб лягчэй было адшукаць патрэбную назву, у такіх выпадках даецца спасылка.

**Дзя′дзенкі Го′рныя** гл. **Го′рныя Дзя′дзенкі.**
**Дзя′дзенкі До′льныя** гл. **До′льныя Дзя′дзенкі.**
**Слабо′дка Гу′шчынская** гл. **Гу′шчынская Слабо′дка.**

Пільнае вока чытача заўважыць, што ў слоўніку даюцца не ўсе назвы паселішчаў, якія ў свой час па нейкіх прычынах зніклі: ссеееных, спаленых, далучаных да суседніх і г. д. Ёсць, напрыклад, хутары Мікіцёнкі II (Германавіцкі сельсавет Шаркаўшчынскага раёна), Сычова I (Зябкаўскі сельсавет Глыбоцкага раёна), Узмёны II (Узмёнскі сельсавет Мёрскага раёна), Укля II (Цяцеркаўскі сельсавет Браслаўскага раёна) і няма назваў Мікіцёнкі I, Сычова II, Узмёны I, Укля I. Іх не ўдалося адшукаць.

Назвы калгасаў і саўгасаў падаюцца ў поўнай адпаведнасці з тымі пісьмовымі афіцыйнымі назвамі, што прыняты на месцах. Праўда, замест ускладненых назваў тыпу ордэна «Знак Пашаны» калгас «Маладая гвардыя» (Мёрскі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя Чырвонай Арміі (Віцебскі раён) пакідаюцца кароткія: калгас «Маладая гвардыя», калгас імя Чырвонай Арміі і замест напісанняў «1 Мая», «1-е Мая», «1-ае Мая», «Першае мая», «Першае Мая», «Першага мая», «Першага Мая», якія можна знайсці на штампах, пячатках і ў раённых газетах, узята адна форма — «1 Мая». Прынята таксама пад увагу рэкамендацыя Тэрміналагічнай камісіі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пісаць: калгас (саўгас) «Світанне», а не калгас (саўгас) «Рассвет». Пры ўсіх назвах мемарыяльнага паходжання, утвораных паводле мадэлі «імя+прозвішча чалавека, чыя памяць ушаноўваецца», ва ўсіх выпадках перад прозвішчам пастаўлены ініцыялы: трэба, каб людзі ведалі, імем якога Жыжова, Кароткіна, Копанава, Смірнова і г. д. названа іх гаспадарка. Да таго ж гэта поўнасцю адпавядае анала-

гічным назвам фабрык, заводаў, навуковых і навучальных устаноў і інш.

У другой частцы змешчаны (таксама ў алфавітным парадку) назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Пры раёнах паказаны: дата ўтварэння; плошча, цэнтр; адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, да Віцебска і да Мінска; колькасць пасялковых і сельскіх Саветаў; агульная колькасць населішчаў, сярод іх — колькасць гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, былых мястэчак, пасёлкаў, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў, а таксама колькасць калгасаў і саўгасаў, населішчаў, запланаваных на перспектыўнае развіццё. Пры пасялковых і сельскіх Саветах — цэнтр; раён, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда і да раённага цэнтра; колькасць населішчаў, калгасаў і саўгасаў.

Усяго (з улікам фанетычных і лексічных варыянтаў) у слоўніку 6928 назваў, якія прыпадаюць на 9436 населеных пунктаў. Сярод іх населішчы (1651), спаленыя нямецкімі фашыстамі ў Айчынную вайну і неадноўленыя, далучаныя да гарадоў або гарадскіх пасёлкаў, сселеныя ці аб'яднаныя ў большыя.

Фактычны матэрыял кнігі, як састаўная частка нацыянальнай тапаніміі, можа быць скарыстаны моваведамі пры вывучэнні гісторыі мовы ў розных яе аспектах, географамі і гісторыкамі пры даследаванні роднага краю, этнічных адносін паміж народамі і іх групамі ў мінулым.

І. І. Сразнеўскі пісаў: «Само сабою разумеецца, што добры, даволі поўны слоўнік ніколі не можа быць укладзены з аднаго разу, што ні ў адной кнізе пропускі і няправільнасці, вольныя ці нявольныя, не столькі магчымыя і даравальныя, як у слоўніку, што самы здавальняючы слоўнік з часам траціць усё больш свае вартасці, усё больш патрабуе паправак і дапаўненняў»*. Словы вядомага рускага моваведа ў поўнай меры можна аднесці і да «Слоўніка назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці», асабліва калі мець на ўвазе паўнату падачы назваў населішчаў, якіх ужо няма. Таму ўсе заўвагі, скіраваныя на яго паляпшэнне, будуць прыняты з удзячнасцю.

Аўтар выказвае шчырую падзяку акадэмікам АН БССР М. В. Бірылу, П. Ф. Глебку, члену-карэспандэнту АН БССР М. Р. Суд-

* Срезневский И. И. Обозрение замечательнейших из современных словарей.— «Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности», т. 3, 1854, с. 154.

ніку, дактарам філалагічных навук П. П. Шубе, Ф. М. Янкоўскаму, доктару геаграфічных навук В. А. Жучкевічу, кандыдатам філалагічных навук Я. М. Адамовічу, С. М. Грабчыкаву, А. А. Крывіцкаму, В. П. Лемцюговай, асістэнту кафедры беларускай мовы Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага Л. А. Акаловічу за каштоўныя парады, а таксама бюро Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, філалагічнай секцыі Навукова-тэхнічнага савета Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, кафедры беларускай мовы Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, Каардынацыйнаму савету па праблеме «Беларускае мовазнаўства», якія рэкамендавалі слоўнік да друку. Аўтар удзячны работнікам мясцовых партыйных і савецкіх органаў, настаўнікам, студэнтам за іх звесткі, скарыстаныя пры ўкладанні даведніка.

## СКАРАЧЭННІ

Айч.— Айчынны
Арш.— Аршанскі раён
Беш.— Бешанковіцкі раён
Брасл.— Браслаўскі раён
в.— вёска
В.-дз.— Верхнядзвінскі раён
Віц.— Віцебскі раён
г.— горад
Гар.— Гарадоцкі раён
гл.— глядзі
Глыб.— Глыбоцкі раён
г. п.— гарадскі пасёлак
г/с — гарадскі Савет
д/а — дом адпачынку
Докш.— Докшыцкі раён
Дубр.— Дубровенскі раён
ж.— жаночы род
з.— засценак
з-д — завод
к-с — калгас
л.— леснічоўка
л-ва — лясніцтва
Леп.— Лепельскі раён
Лёзн.— Лёзненскі раён
м.— мужчынскі род
мяст.— мястэчка
Мёр.— Мёрскі раён
мнл.— множналікавы назоўнік
н.— ніякі род
ням.— нямецкі
п.— пасёлак
пас.— паселішча
Паст.— Пастаўскі раён
Пол.— Полацкі раён
п/с— пасялковы Савет
Рас.— Расонскі раён
р-д — раз'езд
р-н — раён
р. п.— рабочы пасёлак
с.— сяло
Сен.— Сенненскі раён
с/с — сельскі Савет
с-с — саўгас
Тал.— Талачынскі раён
Уш.— Ушацкі раён
ф.— фальварак
х.— хутар
ц. — цэнтр
Чашн.— Чашніцкі раён
чыг. пст.— чыгуначны паўстанак
чыг. ст.— чыгуначная станцыя
Шарк.— Шаркаўшчынскі раён
шз-д — шклозавод
Шум.— Шумілінскі раён
эксперымент.— эксперыментальны

# А

**Аба'б'е** (По'шта Аба'б'е) н., -б'я, -б'і **Обабье.** Аба'бскі Обабский
в. у Друйскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава;
п. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Прагрэс».

**Абалі'** мнл., -лёў, -лях **Оболи.** Абалёўскі Оболёвский
х. у Відзскім с/с Браслаўскага р-на, у с-се «Камуніст».

**Абалі'кшты** мнл., -таў, -тах **Оболикшты.** Абалі'кштаўскі Оболикштовский
в. у Далёцкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Перамога».

**Абало'нне** н., -ння, -нні **Оболонье.** Абало'нскі Оболонский
в. у Заазерскім с/с Полацкага р-на, у с-се «Тураўлянскі»;
в. у Лаўжанскім с/с Шумілінскага р-на, у к-се «Лаўжанскі»;
в. у Мікалаеўскім с/с Шумілінскага р-на, у к-се «Ленінскі прызыў».

**Абало'нь** ж., -ні **Оболонь.** Абало'нскі Оболонский
х. у Станіславоўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се «Іскра».

**Абаля'нка** (да 1964 г. Паўшля'хты) ж., -кі, -нцы **Оболянка.** Абаля'нскі Оболянский
в. у Лявонаўскім с/с Шумілінскага р-на, у к-се «Расія».

**Абаля'ны** мнл., -ян/-наў, -нах **Оболяны.** Абаля'нскі Оболянский
в. у Дрысвяцкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя М. В. Фрунзе.

**Абі'дзіна** н., -на, -не **Обидино.** Абі'дзінскі Обидинский
в. у Стадолішчанскім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се «Смалоўка».

**Абіто'кі** мнл., -ок/-каў, -ках **Обитоки.** Абіто'цкі Обитокский
х. да 1976 г. у Бірузоўскім с/с Расонскага р-на.

**Аблято'ва** н., -ва, -ве **Облятово.** Аблято'ўскі Облятовский
х. у Павяцкім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Гігант».

**Або'льцы** мнл., -лец/-цаў, -цах **Обольцы.** Або'лецкі Оболецкий
в.—ц. Аболецкага с/с Талачынскага р-на і к-са імя Ф. Э. Дзяржынскага.

**Абразе'ева** н., -ва, -ве **Образеево.** Абразе'еўскі Образеевский
в. у Сар'янскім с/с Верхнядзвінскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая.

**Абразі'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Образишки.** Абразі'шкаўскі Образишковский
х. у Відзскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Уперад».

**Абра'мава** н., -ва, -ве **Абрамово.** Абра'маўскі Абрамовский
в. у Чапаеўскім с/с Верхнядзвінскага р-на, у к-се «Зара».

**Абру'б** м., -ба, -бе **Обруб.** Абру'бскі Обрубский
в. у Псуеўскім с/с Глыбоцкага р-на, у с-се «Яблынька».

**Абру'б Беразве'цкі** гл. **Беразве'цкі Абру'б.**

**Абру′б Ла′ставіцкі** гл. **Ла′ставіцкі Абру′б.**
**Абу′хава** н., -ва -ве **Обухово.** Абу′хаўскі Обуховский
в. у Межаўскім с/с Аршанскага р-на, ц. к-са «Чырвоная Беларусь»;
в. у Плiскім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се «XXI з'езд КПСС»;
в. у Сар'янскім с/с Верхнядзвінскага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева;
в. у Воронаўскім с/с Віцебскага р-на, у с-се «Вароны»;
в. у Язненскім с/с Мёрскага р-на, у с-се «Дзісенскі»;
в. у Клясціцкім с/с Расонскага с/с Расонскага р-на, у с-се «Гвардыя».
**Абухі′** мнл., -хоў, -хах **Обухи.** Абухо′ўскі Обуховский
х. да 1976 г. у Ахрэмаўскім с/с Браслаўскага р-на.
**Абызе′р'е** н., -р'я, -р'і **Обызерье.** Абызе′рскі Обызерский
в. у Лукомльскім с/с Чашніцкага р-на, у с-се «Лукомльскі».
**Аванга′рдная** (да 1964 г. Стары′ Мар'янфе′льд) ж., -най **Авангардная.** Аванга′рдненскі Авангардненский
в. да 1976 г. у Бiкложскім с/с Бешанковіцкага р-на.
**Аве′ркі** мнл., -рак/-каў, -ках **Аверки.** Аве′ркаўскі Аверковский
х. да 1939 г. у Мішневіцкім с/с Шумілінскага р-на.
**Аве′чкі** мнл., -чак/-каў, -ках **Овечки.** Аве′чкаўскі Овечковский
х. у Язненскім с/с Мёрскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна.
**Ага′льніца** ж., -цы **Огальница.** Ага′льніцкі Огальницкий
в. у Станіславоўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се «Іскра».
**Ага′льніца Мала′я** гл. **Мала′я Ага′льніца.**
**Ага′паль** м., -ля, -лі **Агаполь.** Ага′пальскі Агапольский
п. у Дулінскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у с-се імя Ф. Р. Маркава.
**Агаро′днікі** мнл., -каў, -ках **Огородники.** Агаро′дніцкі Огородникский
в. у Воронаўскім с/с Віцебскага р-на, у с-се «Вароны»;
в. у Савіцкім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».
**Аго′ні** мнл., -няў, -нях **Огони.** Аго′нскі Огонский
в. у Слабодкаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Світанне».
**Агранамі′чная** ж., -пай **Агрономичная.** Агранамі′чанскі Агрономический
в. у Смалянскім с/с Аршанскага р-на, ц. вучгаса «Смаляны».
**Агуркі′** мнл., -коў, -ках **Огурки.** Агурко′ўскі Огурковский
в. у Асвейскім п/с Верхнядзвінскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая.
**Агурні′** мнл., -нёў, -нях **Огурни.** Агурнёўскі Огурнёвский
в. у Падсвільскім п/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Г. М. Дзімітрава.
**Агурэ′шчына** ж., -ны, -не **Огурещина.** Агурэ′шчынскі Огурещинский
в. да 1937 г. у Лаўжанскім с/с Шумілінскага р-на.
**Ада′мава** н., -ва, -ве **Адамово.** Ада′маўскі Адамовский
в. у Алексініцкім с/с Сенненскага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».
**Ада′маўка** ж., -кі, -ўцы **Адамовка.** Ада′маўскі Адамовский
в. у Чэрскім с/с Лепельскага р-на, ц. к-са «Новы шлях»;

в. у Латыголіцкім с/с Чашніцкага р-на, у с-се «Латыголічы».

**Ада'маўцы** мнл., -цаў, -цах **Адамовцы.** Ада'маўскі Адамовский
в. ва Удзелаўскім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева.

**Ада'менкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Адаменки.** Ада'менскі Адаменский
х. у Друйскім п/с Браслаўскага р-на, у с-се «Друйскі»;
в. у Лёзненскім с/с Лёзненскага р-на, у с-се «Адаменкі».

**Ада'мішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Адамишки.** Ада'мішкаўскі Адамишковский
в. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Слава».

**Адамо'ва** н., -ва, -ве **Адамово.** Адамо'ўскі Адамовский
в. у Слабодкаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Радзіма»;
в. у Боркавіцкім с/с Верхнядзвінскага р-на, у к-се імя Ільіча;
х. да 1971 г. у Мікалаеўскім с/с Мёрскага р-на;
в. у Варапаеўскім п/с Пастаўскага р-на, у с-се «Старадворскі»;
в.—ц. Адамоўскага с/с Полацкага р-на, у к-се «40 гадоў Кастрычніка»;
п. у Дулінскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у с-се імя Ф. Р. Маркава.

**Адампо'лле** (Адампо'ле) н., -лля, -ллі **Адамполье.** Адампо'льскі Адампольский
в. у Гаранскім с/с Полацкага р-на, у к-се «Бальшавік».

**Адва'лаўшчына** ж., -ны, -не **Отваловщина.** Адва'лаўшчынскі Отваловщинский
х. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Я. М. Свярдлова.

**Адва'лкі I** мнл., -лак/-каў, -ках **Отвалки I.** Адва'лкаўскі I Отвалковский I
в. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Я. М. Свярдлова.

**Адва'лкі II** мнл., -лак/-каў, -ках **Отвалки II.** Адва'лкаўскі II Отвалковский II
в. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Я. М. Свярдлова.

**Адво'рня** ж., -ні **Одворня.** Адво'рненскі Одворненский
в. у Сарочынскім с/с Ушацкага р-на, у с-се «Сарочына».

**Адво'рыца** ж., -цы **Одворица.** Адво'рыцкі Одворицкий
в. у Велікадолецкім с/с Ушацкага р-на, у с-се «Велікадолецкі».

**Адлі'ўкі** мнл., -івак/-каў, -ках **Отливки.** Адлі'ўкаўскі Отливковский
х. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Я. М. Свярдлова.

**Адру'б** м., -ба, -бе **Отруб.** Адру'бскі Отрубский
в. у Бягомльскім п/с Докшыцкага р-на, у с-се «Бягомльскі».

**Адру'бак** м., -бка, -бку **Отрубок.** Адру'бацкі Отрубокский
в. у Бярэзінскім с/с Докшыцкага р-на, у с-се «Чырвонабярэзінскі»;
в. у Крыпульскім с/с Докшыцкага р-на, у к-се «Усход».

**Адымя'нішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Адымянишки.** Адымя'нішкаўскі Адымянишковский
в. у Опсаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».

**Адэ'ліна** н., -на, -не **Оделино.** Адэ'лінскі Оделинский
в. у Глыбачанскім с/с Ушацкага р-на, у с-се «Глыбачаны».
**Ажа'рава** н., -ва, -ве **Ожарево.** Ажа'раўскі Ожаревский
в. у Савіцкім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «Світанне».
**Ажа'рцы** мнл., -рац/-цаў, -цах **Ожарцы.** Ажа'рскі Ожарский
в. у Савіцкім с/с Пастаўскага р-на, у с-се «Пастаўскі».
**Ажу'ны** мнл., -ун/-наў, -нах **Ожуны.** Ажу'нскі Ожунский
в. у Варапаеўскім п/с Пастаўскага р-на, у с-се «Варапаева».
**Ажуро'йсці** мнл., -цяў, -цях **Ожуройсти.** Ажуро'йсцеўскі Ожуройстевский
в. у Лынтупскім п/с Пастаўскага р-на, у с-се імя У. І. Леніна.
**Ажэ'лішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Ожелишки.** Ажэ'лішкаўскі Ожелишковский
в. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева.
**Ажэ'хава** (Арэ'хава) н., -ва, -ве **Ожехово.** Ажэ'хаўскі Ожеховский
х. у Зарацкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Беларусь».
**Аза'ранкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Азаренки.** Аза'ранкаўскі Азаренковский
в. у Жарскім с/с Ушацкага р-на, у к-се «Гігант».
**Аза'ркі** мнл., -рак/-каў, -ках **Азарки.** Аза'ркаўскі Азарковский
в. у Суражскім п/с Віцебскага р-на, у с-се імя М. П. Шмырова.
**Аза'рцы** мнл., -рац/-цаў, -цах **Азарцы.** Аза'рскі Азарский
з. у Параф'янаўскім с/с Докшыцкага р-на, у к-се «Чырвоны сцяг».
**Аза'рына** н., -на, -не **Азарино.** Аза'рынскі Азаринский
з. да 1969 г. у Параф'янаўскім с/с Докшыцкага р-на.
**Азернікі'** мнл., -коў, -ках **Озерники.** Азернікоўскі Озерниковский
в. у Каханавіцкім с/с Верхнядзвінскага р-на, у с-се «Верхнядзвінскі».
**Азе'рцы** мнл., -рац/-цаў, -цах **Озерцы.** Азярэ'цкі Озерецкий
в. у Бягомльскім п/с Докшыцкага р-на, у к-се «Іскра»;
в. у Чэрскім с/с Лепельскага р-на, у к-се «Ударнік»;
х. у Чэрскім с/с Лепельскага р-на, у к-се «Ударнік»;
в.—ц. Азярэцкага с/с Талачынскага р-на і к-са «XVIII партз'езд»;
п. да 1969 г. у Азярэцкім с/с Талачынскага р-на.
**Азёркі** мнл., -рак/-каў, -ках **Озёрки.** Азёркаўскі Озёрковский
в. у Бікложскім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се імя Ільіча;
в. у Прудніцкім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се «Стайкаўскі»;
в. у Хмяльніцкім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се «Хмяльніцкі»;
х. у Зябкаўскім с/с Глыбоцкага р-на, у с-се імя Ф. Э. Дзяржынскага;
в. у Плісім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Кастрычнік»;
л. у Ярэўскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына;
х. да 1973 г. у Германавіцкім с/с Шаркаўшчынскага р-на.
**Азёрная** ж., -най **Озёрная.** Азёрненскі Озёрненский
в. у Заборскім с/с Расонскага р-на, у с-се імя У. М. Азіна.
**Азёры** мнл., -ёр/-раў, -рах **Озёры.** Азёрскі Озёрский
в. у Рэдзькаўскім с/с Дубровенскага р-на, у к-се «Іскра Ільіча»;

в. да 1973 г. у Германавіцкім с/с Шаркаўшчынскага р-на.

**А′зіна** (да 1975 г. Бе′лае) н., -на, -не **Азино.** А′зінскі Азинский
в.—ц. Азінскага с/с Полацкага р-на і с-са «Белае».

**Азэ′та** ж., -ты, -эце **Озета.** Азэ′цкі Озетский
в. у Ручайскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се «Маяк».

**Азяра′ва** ж., -вы, -ве **Озерава.** Азяра′ўскі Озеравский
в. у Казянскім с/с Браслаўскага р-на, ц. к-са імя В. П. Чкалава.

**Азяра′ўка** ж., -кі, -ўцы **Озеравка.** Азяра′ўскі Озеравский
з. у Казянскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя В. П. Чкалава.

**Азяра′ўцы** мнл., -авец/-цаў, -цах **Озеравцы.** Азяра′ўскі Озеравский
в. у Ахрэмаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Шлях Леніна».

**Азяро′к** м., -рка, -рку **Озерок.** Азяро′цкі Озерокский
в. у Малотынскім с/с Аршанскага р-на, у к-се «Спартак».

**Азярцы′** мнл., -цоў, -цах **Озерцы.** Азярцо′ўскі Озерцовский
в. у Мамайскім с/с Глыбоцкага р-на, ц. с-са «Азярцы»;
в. у Расонскім п/с Расонскага р-на, у к-се імя А. М. Горкага.

**Айчы′зна** ж., -ны, -не **Ойчизна.** Айчы′зненскі Ойчизненский
в. у Плíскім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Шлях Леніна».

**Аке′лы** мнл., -ел/-лаў, -лах **Окелы.** Аке′льскі Окельский
х. у Камайскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «Перамога».

**Акі′маўка** ж., -кі, -ўцы **Акимовка.** Акі′маўскі Акимовский
х. да 1939 г. у Обальским п/с Шумілінскага р-на.

**Ако′ліца Руда′ва** ж., -цы -вы, -цы -ве **Околица Рудава.** Аколіцаруда′ўскі Околицерудавский
в. у Ахрэмаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Партызан».

**Акса′наўка** ж., -кі, -ўцы **Аксановка.** Акса′наўскі Аксановский
п. у Ноўкінскім с/с Віцебскага р-на, у с-се «Рудакова».

**Аксю′тава** н., -ва, -ве **Аксютово.** Аксю′таўскі Аксютовский
в. у Далёцкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна.

**Аксянці′** мнл., -цёў, -цях **Аксенти.** Аксянцёўскі Аксентёвский
в. у Пачаевіцкім с/с Чашніцкага р-на, у с-се «Пачаевічы».

**Акулёнкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Акулёнки.** Акулёнкаўскі Акулёнковский
в. у Мікалаеўскім с/с Шумілінскага р-на, у к-се «Ленінскі прызыў».

**Аку′ліна** н., -на, -не **Акулино.** Аку′лінскі Акулинский
в. да 1970 г. у Гарбацкім с/с Ушацкага р-на.

**Акуло′ўшчына** ж., -ны, -не **Акуловщина.** Акуло′ўшчынскі Акуловщинский
х. да 1971 г. у Перабродскім с/с Мёрскага р-на.

**Акунёва** н., -ва, -ве **Окунёво.** Акунёўскі Окунёвский
х. да 1971 г. у Плíскім с/с Глыбоцкага р-на;
п. у Мікалаеўскім с/с Мёрскага р-на, ц. к-са імя К. С. Заслонава;
х. у Павяцкім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Гігант».

**Акуні′** мнл., -нёў, -нях **Окуни.** Акунёўскі Окунёвский
в. у Бычыхінскім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се імя Я. М. Свярдлова.

**Акця′брскі** (Акця′барскі) м., -кага, -кім **Октябрьский.** Акця′брскі Октябрьский
р. п. з 1967 г. у Чашніцкім р-не.
**Ала′нцева** н., -ва, -ве **Алантево.** Ала′нцеўскі Алантевский
в. у Стайкаўскім с/с Аршанскага р-на, у к-се «Світанне».
**Ала′шкаўшчына** ж., -ны, -не **Алашковщина.** Ала′шкаўшчынскі Алашковщинский
в. у Белькаўскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «Чырвоны маяк».
**Ала′шкі Вялі′кія** гл. **Вялі′кія Ала′шкі.**
**Ала′шкі Малы′я** гл. **Малы′я Ала′шкі.**
**Але′йнікі** мнл., -каў, -ках **Олейники.** Але′йнікаўскі Олейниковский
в. у Бешанковіцкім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се «Ленінскі шлях»;
х. у Перабродскім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».
**Але′йсберг** м., -га, -рзе **Алейсберг.** Але′йсбергскі Алейсбергский
х. да 1971 г. у Падсвільскім п/с Глыбоцкага р-на.
**Александро′ва** н., -ва, -ве **Александрово.** Александро′ўскі Александровский
в. у Астровенскім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се «40 гадоў БССР»;
в. у Завуцкім с/с Мёрскага р-на, у к-се імя М. Ф. Гастэлы;
в. у Павяцкім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Гігант»;
в. у Багушэўскім с/с Сенненскага р-на, у с-се «Багушэўскі»;
в. у Студзёнкаўскім с/с Сенненскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна;
х. у Дулінскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се «Шлях Леніна»;
в. у Шкунцікаўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се імя Ільіча.
**Александры′на** ж., -ны, -не **Александрина.** Александры′нскі Александринский
в. у Даўгінаўскім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Светлы шлях».
**Александры′я** (да 1932 г. Рэ′дзькаўшчына) ж., -ыі **Александрия.** Александры′йскі Александрийский
в. у Валяўкоўскім с/с Дубровенскага р-на, у с-се «Прыдняпроўскі»;
(да 1948 г. Ву′сце) в. у Багушэўскім с/с Сенненскага р-на, у с-се імя А. К. Гараўца.
**Але′ксінічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алексиничи.** Але′ксініцкі Алексиничский
в.—ц. Алексініцкага с/с Сенненскага р-на і к-са «Запаветы Ільіча».
**Але′ніна** н., -на, -не **Аленино.** Але′нінскі Аленинский
в. да 1939 г. у Ноўкінскім с/с Віцебскага р-на.
**Але′сева** н., -ва, -ве **Алесево.** Але′сеўскі Алесевский
в. да 1974 г. у Адамоўскім с/с Полацкага р-на.
**Але′шчынцы** мнл., -нец/-цаў, -цах **Алещинцы.** Але′шчынскі Алещинский
п. у Туркоўскім с/с Мёрскага р-на, у к-се імя М. І. Кутузава.
**Але′шына** н., -на, -не **Олешино.** Але′шынскі Олешинский
в. у Варапаеўскім п/с Пастаўскага р-на, у с-се «Варапаева».

**Алёнавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алёновичи.** Алёнавіцкі Алёновичский в.—ц. Алёнавіцкага с/с Талачынскага р-на, у с-се «Світанне».
**Алёхнава** н., -ва, -ве **Алёхново.** Алёхнаўскі Алёхновский
в. у Алексініцкім с/с Сенненскага р-на, у к-се імя Ф. Э. Дзяржынскага.
**Алёхны** мнл., -хан/-наў, -нах **Алёхны.** Алёхнаўскі Алёхновский
в. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Слава».
**Алёшча** ж., -чы **Алёща.** Алёшчанскі Алёщанский
чыг. ст. у Маласітнянскім с/с Полацкага р-на.
**Аліхве'ры** мнл., -ер/-раў, -рах **Олихверы.** Аліхве'рскі Олихверский
в. у Белькаўскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна.
**Альбе'наўка** ж., -кі, -ўцы **Альбеновка.** Альбе'наўскі Альбеновский
в. у Далёцкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына.
**Альбі'наўшчына** ж., -ны, -не **Альбиновщина.** Альбі'наўшчынскі Альбиновщинский
х. у Друйскім п/с Браслаўскага р-на, у с-се «Друйскі».
**Альбіно'ва** н., -ва, -ве **Альбиново.** Альбіно'ўскі Альбиновский
х. у Далёцкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Праўда».
**Альбрэ'хтава** н., -ва, -ве **Альбрехтово.** Альбрэ'хтаўскі Альбрехтовский
в. у Расонскім п/с Расонскага р-на, ц. к-са імя А. М. Горкага.
**Альге'рдава** н., -ва, -ве **Ольгердово.** Альге'рдаўскі Ольгердовский
в. у Ахрэмаўскім с/с Браслаўскага р-на, у с-се «Браслаўскі».
**Альго'ва** н., -ва, -ве **Ольгово.** Альго'ўскі Ольговский
в. у Бабініцкім с/с Віцебскага р-на, ц. к-са імя Чырвонай Арміі;
в. да 1930 г. у Ноўкінскім с/с Віцебскага р-на;
в. у Зайкаўскім с/с Гарадоцкага р-на, у к-се «Перамога».
**Альсі'нішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Ольсинишки.** Альсі'нішкаўскі Ольсинишковский
х. у Відзскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Іскра».
**Альхаве'ц** м., -аўца, -аўцы **Ольховец.** Альхаве'цкі Ольховецкий
в. у Хмяльніцкім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се «Хмяльніцкі».
**Альхаві'к** м., -ка, -ку **Ольховик.** Альхаві'цкі Ольховикский
в. у Лёзненскім с/с Лёзненскага р-на, у с-се «Адаменкі».
**Альхімо'ўшчына** ж., -ны, -не **Альхимовщина.** Альхімо'ўшчынскі Альхимовщинский
в. у Галубіцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя А. М. Горкага.
**Альхі'мцы** мнл., -мец/-цаў, -цах **Альхимцы.** Альхі'мскі Альхимский
х. у Друйскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава.
**Альхо'вая** (да 1964 г. Забулды'чына) ж., -вай **Ольховая.** Альхо'ўскі Ольховский
в. да 1967 г. у Расонскім п/с Расонскага р-на.
**Альхо'вікі** мнл., -каў, -ках **Ольховики.** Альхо'віцкі Ольховикский
в. у Карабоўскім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Герой працы»;
х. да 1939 г. у Язвінскім с/с Шумілінскага р-на.
**Альхо'ўка** ж., -кі, -ўцы **Ольховка.** Альхо'ўскі Ольховский
в. у Дубраўскім с/с Аршанскага р-на, гаспадарка Аршанскага мясакансервавага камбіната;
х. у Ахрэмаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Партызан»;

х. у Псуеўскім с/с Глыбоцкага р-на, у с-се «Яблынька»;
х. да 1970 г. у Параф'янаўскім с/с Докшыцкага р-на;
з. у Новапагосцкім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Зара»;
з. у Перабродскім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Кастрычніцкая рэвалюцыя»;
(да 1964 г. Раздзёрка) в. у Язненскім с/с Мёрскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна;
х. да 1939 г. у Мішневіцкім с/с Шумілінскага р-на.

**Альхо′ўнікі I** мнл., -каў, -ках **Ольховники I.** Альхо′ўніцкі I Ольховникский I
х. да 1971 г. у Германавіцкім с/с Шаркаўшчынскага р-на.

**Альхо′ўнікі II** мнл., -каў, -ках **Ольховники II.** Альхо′ўніцкі II Ольховникский II
х. да 1976 г. у Германавіцкім с/с Шаркаўшчынскага р-на.

**Альхо′ўцы** мнл., -овец/-цаў, -цах **Ольховцы.** Альхо′ўскі Ольховский
х. у Слабодкаўскім с/с Браслаўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. у Станіславоўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се імя Ф. Энгельса.

**Альцы′** мнл., -цоў, -цах **Альцы.** Альцо′ўскі Альцовский
в. у Дунілавіцкім с/с Пастаўскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая;
х. да 1971 г. у Дунілавіцкім с/с Пастаўскага р-на.

**Альша′нікі** мнл., -каў, -ках **Ольшаники.** Альша′ніцкі Ольшаникский
в. у Бешанковіцкім с/с Бешанковіцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. у Шайцераўскім с/с Верхнядзвінскага р-на, у к-се «Новы шлях».

**Альша′нка** ж., -кі, -нцы **Ольшанка.** Альша′нскі Ольшанский
в. да 1971 г. у Плюскім с/с Браслаўскага р-на;
в. да 1966 г. у Сіроцінскім с/с Шумілінскага р-на.

**Альша′ны** мнл., -ан/-наў, -нах **Ольшаны.** Альша′нскі Ольшанский
в. у Сарочынскім с/с Ушацкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.

**Альшне′ва** н., -ва, -ве **Ольшнево.** Альшне′ўскі Ольшневский
в. у Белькаўскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна.

**Альшэ′ўскія** мнл., -кіх **Ольшевские.** Альшэ′ўскі Ольшевский
в. у Камайскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «Колас».

**Алюшко′ва** н., -ва, -ве **Алюшково.** Алюшко′ўскі Алюшковский
х. да 1939 г. у Мікалаеўскім с/с Шумілінскага р-на.

**Алякса′ндрава Мацно′ва** гл. **Мацно′ва Алякса′ндрава.**

**Алякса′ндраўка** ж., -кі, -ўцы **Александровка.** Алякса′ндраўскі Александровский
в. да 1930 г. у Ноўкінскім с/с Віцебскага р-на.

**Алякса′ндраўская** ж., -кай **Александровская.** Алякса′ндраўскі Александровский
в. у Нямойтаўскім с/с Сенненскага р-на, у к-се «Кастрычнік».

**Аляксе′ева** н., -ва, -ве **Алексеево.** Аляксе′еўскі Алексеевский
в. у Хмяльніцкім с/с Гарадоцкага р-на, у с-се «Хмяльніцкі».

**Аляксе′еўцы** мнл., -цаў, -цах **Алексеевцы.** Аляксе′еўскі Алексеевский

в. у Дзёрнавіцкім с/с Верхнядзвінскага р-на, у с-се імя Я. П. Кульнёва.

**Аляксе'йкі** мнл., -еек/-каў, -ках **Алексейки.** Аляксе'йкаўскі Алексейковский

в. у Валяўкоўскім с/с Дубровенскага р-на, у с-се «Прыдняпроўскі».

**Аляксі'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Алексишки.** Аляксі'шкаўскі Алексишковский

х. да 1973 г. у Перабродскім с/с Мёрскага р-на

**Аляхні'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Алехнишки.** Аляхні'шкаўскі Алехнишковский

в. у Дварчанскім с/с Пастаўскага р-на, у к-се «За Радзіму».

**Амбро'сава** н., -ва, -ве **Амбросово.** Амбро'саўскі Амбросовский

х. у Пліскім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Світанне».

**Амбро'савічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Амбросовичи.** Амбро'савіцкі Амбросовичский

в. у Падсвільскім п/с Глыбоцкага р-на, у к-се імя Г. М. Дзімітрава;

в. у Светласельскім с/с Шумілінскага р-на, ц. к-са «Праўда».

**Амбро'сенкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Амбросенки.** Амбро'сенкаўскі Амбросенковский

в. у Язненскім с/с Мёрскага р-на, у к-се «Язна»;

в. у Буйкаўскім с/с Шаркаўшчынскага р-на, у к-се імяЛ. М. Даватара.

**Амбро'сінкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Амбросинки.** Амбро'сінкаўскі Амбросинковский

в. у Даўгінаўскім с/с Мёрскага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева.

**Аме'лькава** н., -ва, -ве **Амельково.** Аме'лькаўскі Амельковский

х. у Плісім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Шлях Леніна».

**Аме'льчанкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Амельченки.** Аме'льчанкаўскі Амельченковский

в. да 1976 г. у Дворышчанскім с/с Расонскага р-на.

**Амо'саўка** ж., -кі, -ўцы **Амосовка.** Амо'саўскі Амосовский

в. у Кашчынскім с/с Чашніцкага р-на, у с-се «Кашчынскі».

**Амо'сенкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Амосенки.** Амо'сенкаўскі Амосенковский

в. у Краснапольскім с/с Расонскага р-на, у с-се «Краснаполле».

**Амялья'нікі** (Амялля'нікі) мнл., -каў, -ках **Амельяники.** Амялья'нікаўскі Амельяниковский

в. у Гомельскім с/с Полацкага р-на, у с-се «Тураўлянскі».

**Амялья'нішкі** (Амялля'нішкі) мнл., -шак/-каў, -ках **Амельянишки.** Амялья'нішкаўскі Амельянишковский

х. у Зарацкім с/с Браслаўскага р-на, у к-се «Зорка».

**Ана'ніна** н., -на, -не **Ананино.** Ана'нінскі Ананинский

в. у Бабініцкім с/с Віцебскага р-на, у к-се імя Чырвонай Арміі.

**Ана'нічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ананичи.** Ана'ніцкі Ананичский

в. у Празароцкім с/с Глыбоцкага р-на, у к-се «Авангард»;

х. да 1973 г. у Празароцкім с/с Глыбоцкага р-на;

в. да 1975 г. у Дварчанскім с/с Пастаўскага р-на.

